№ 81 Ausgabe B.

# ГОМАН

Цана з перасылкай і дастаукай да хаты:

на 1 год—10 м. 80 фэн., на ½ году—5 м. 40 ф., на 3 месяцы—2 м. 70 ф., на 1 мес.—90 фэн.

Беларуская Віленская часопіс

выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакцыі: Вільня, Віленская 33.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі:
М. Стэфанская 23.

Цана абвестак:

на 4-ай старане за радок дробнымі літарамі — 25 фэніг.; дробныя абвесткі— па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 81 (277). Год III. Вільня, 15 кастрычніка 1918 г. Цана 10 фэн. (5 кап.)

# ТЭЛЕГРАМЫ.

ЛОНДОН (Рэўтэр). 13.Х. Сэрбскі міністэр - прэзыдэнт Пашыч сказаў, што на яго пагляд мір скора будзе, можа быць яшчэ прад Калядамі. Трэба спадзявацца, што, так званы, саюза народаў зробіць будучыя войны нэмагчымымі.

ГААГА. 13.Х. Адказ нямецкага ўраду стаў у Лёндоне вядомым у суботу ўвечары і вызваў у тэатрах, кінематаграфах і іншых грамадзкіх мясцох вялікую радасьць. Пяялі нацыянальны гымн і прадстаўленьні прарываліся. Пануе агульная думка, што канец вайны цяпер толькі пытаньне кароткага часу. Нядзеляшнія газэты пішуць, што ня можна яшчэ верыць шчырасьці нямецкага прадлажэньня. Газэты кажуць, што калі немцы думаюць, што цяпер можна сесьці за стол на конфэрэнцыі каб зрабіць згоду, то яны горка мыляцца. Да варункаў Вільсона Францыя і Англія дадасьць свае варункі. Вільсон не дастане ад сваіх саюзьнікаў згоды на заміраньне, калі ня будуць дадзены гарантыі, што Нямеччына будзе пабіта. Газэты пералічаюць потым вельмі далёка ідучыя гэткія гарантыі.

У Швайцарыі адказ Нямеччыны зрабіў добрае ўражэньне. Публіка пэўная, што мір цяпер блізкі. Францускa - Швайцарская газэта „La Fej“ піша: цяпер Вільсон павінен адкрыць карты і паказаць шчырасьць сваіх прынцыпаў, або іх партыйнасьць.

БЭРЛІН. 14.Х. **Урадова.** На прадлажэньне міра нямецкага ўраду прэзыдэнту Вільсону пачалося вялікае цкаваньне францускіх і англіцкіх газэт проціў быццам сустэматычнага нішчэньня нашымі войскамі пры адступленьні паўночнай Францыі. Няхай сьвет ведае, што гэтае цкаваньне чыстая мана і выдумана непрыяцельскімі газэтамі, каб узноў раздражніць военную злосьць і выперадзіць мір, каторага мы хочам. Але, гэта праўда: Сан-Кантэн, Каамбрэ, Дуэ, Ляон—гэта дымячыяся руіны, але адказ падае толькі на непрыяцельскіх лётальнікаў і артылерыю, каторыя цэлымі тыднямі абстрэлівалі гэтыя месты гранатамі і брангэрамі.

КОНСТАНТЫНОПОЛЬ. Ахмэт Рыза назначаны прэзыдэнтам сэната. Новае міністэрства арганізуецца. Яно ня ёсьць немцафобскае, яно не варожае немцам і ня зробіць сэпаратнага міра. Міністэрства Талаата яшчэ ня вышла ў адстаўку. Адносіны турэцкага ўраду бязумоўна карэктныя і заслужываюць бязумоўна прызнальнасьці.

КОНСТАНТЫНОПОЛЬ. 13.Х. Парлямэнт адкрыты сягоньня пасадавай прамовай султана, каторы напамінае аб цяжкім палажэньні, у каторым апынулася Турцыя з прычыны развалу Баўгарыі. Разам з цэнтральнымі дзяржавамі Турцыя прадлажыла непрыяцелям мір, але разам з сваймі саюзьнікамі Турцыя прыняла меры безпечнасьці краю. Парлямэнт выбраў сваім прэзыдэнтам Галіля, большасьцю 70 галасоў.

ГААГА. 13.Х. Газэты наказываюць з Вашынгтона што, з прычыны адкрыцьця агітацыі на чацьвертую военную амэрыканскую пазыку, прэзыдэнт Вільсон заявіў, што апошнія здарэньні павінны яшчэ павялічыць цікаўнасьць да гэтай пазыкі. «Я спадзяюся, сказаў ён, што мае суграмадзяне пазволяць мне сказаць ім шчыра, што найлепшае, што можна цяпер зрабіць —гэта памагчы новай военнай пазыцы дайсьці магчымай вышыні. Цяпер амэрыканскія сілы расшыраюцца, як ніколі дагэтуль і аслабленьне настрою ў Амэрыцы вызвала-б сусьветную катастрофу. Палажэньне крытычнае і мы павінны сабраць усе нашыя сілы, каб правясьці ў жыцьцё наш плян.

РОТТЭРДАМ. 14.Х. У Шэфільі міністэр Чэрчыль меў прамову, у каторай, між іншым, сказаў: „душа нямецкіх мілітарыстаў чарней чымся калі небудзь. Довадам ёсьць затапленьне торпэдай пасажырскага параходу „Leuster“. Вельмі патрэбны гарантыі прад заміраньнем, але нашыя варункі будуць дыктавацца ня помстай і ненавісьцяй, але толькі розумам. Абавязак англіцкага ўраду забаспечыць нас гарантыямі, каб пасьлей мы ня былі прымушаны да новае вайны.

БУКАРЭШТ. Орган ураду «Steagul» піша: «саюзьнікі пасьвячаюць Румыніяй на карысьць Баўгарыі. Яны маняцца аддаць Баўгарыі ўсю Добруджу.

МАСКВА (В.Т.Б.). 10.Х. «Правда» наказавае, што чэхі ўзарвалі два быкі вялікага волскага мосту. «Ізвѣстія» наказываюць, што ў Чэрэповецкім павеце Ноўгародзкай губ. забіты невядомымі арганізатар камітэта батракоў. У адказ на гэта разстрэлены: духавенства з епіскапам, ігуменьня і 8 іншых асоб.

Водлуг прыватных вестак брат б. цара, Міхаіл, прабаваў уцікаць і быў забіты сваёй вартай.

ВАШЫНГТОН (Рэўтэр). 13.Х **Урадова.** Параход «Ticondaroga» затоплены 30 верасьня.

## Протэст Беларускага Ураду і Рады Беларускае Народнае Рэспублікі проці жаданьня Польшчы захапіць Беларускую Зямлю.

7 кастрычніка Беларускі Народны Сэкрэтарыят і Рада Беларускае Народнае Рэспублікі падалі нямецкаму рэйхсканцлеру, прынцу Максу Бадэнскаму, протэст проціў пляну Польшчы захапіць часьць Гродненскае і Віленскае губэрні.

*Вільня, 15 кастрычніка 1918.*

Ці прымуць коаліцыйныя дзяржавы прадложаны Нямеччынай мір. ці не, аднак мы не абмылімся, калі скажам, што мір ужо не за гарамі. Мір пастановіць аб долі многіх народаў як ваюючых так і не ваюючых. На міры разьвяжацца і доля Беларусі, там пакажацца ці будзем мы гаспадарамі ў сваім краі, ці будзем вольным, багатым незалежным народам, ці мо' парабкамі ў чужнікоў. І хоць беларускі рух ніколі ня схінецца прад сілай, хоць мы заўсёды будзем дабівацца і даб'ёмся наапошку свайго, то аднак у гэты гістарычны мамэнт мы павінны напяць усе свае сілы, каб абараніцца ад чужацкай няволі.

Беларусь з самага пачатку свайго культурнага быцьця была незалежным гасударствам сьпярша адна, а пасьля злучыўшыся з Літвой. Праз даўгі час свайго гістарычнага жыцьця беларусы вялі вялікую барацьбу з маскоўцамі і палякамі дзеля абароны свае незалежнасьці. У канцы пакарыўшыся сіле, будучы ў цяжкім ярме польскім і маскоўскім беларусы ніколі не пакідалі жаданьня стаць узноў незалежнымі. Гэтая вялікая ідэя нашае незалежнасьці, што чырвонай ніткай праходзіць праз усю нашую гісторыю, была як з прычыны пачуцьця беларускага народу свае самабытнасьці, свайго нацыянальнага «я», так і з патрэб эканаміцкага характару. Толькі незалежная Беларусь можа прыродна разьвівацца і закрасаваць эканамічна. Беларусь пад Польшчай або Маскоўшчынай або падзеленая між імі будзе полем вайны паміж дзяржаўным і беларускім народам. Апрача самых палякоў, яшчэ ніхто не гаворыць аб прылучэньні Беларусі да Польшчы і ёсьць балей пэўнасьці, што ні ўся Беларусь, ні часьць яе да Польшчы ня будзе прылучана, аднак паглядзеце як палякі ўжо гатуюцца паласавацца нашым дабром. Яны ўжо намэцілі, каб зьменшыць у сябе народу, перасяліць да нас за Бабёр і наагул на Беларускую зямлю каля 10 мільёнаў сваіх мазуроў. Аб гэтым наказываюць польскія газэты. Ня тое важна 10 ці колькі там мільёнаў палякі хочуць перасяліць мазуроў на нашую зямлю, а важна тое, што калі-б Беларусь была прылучана да Польшчы, то мазуроў да нас напэўна не расялялі-б. Ведама калі-б палякі перасялілі мільёны сваіх жыхараў на беларускую зямлю, то беларусам прышлося-б уцікаць з свае Бацькаўшчыны або на фабрыкі ў Польшчу, або яшчэ прасьцей пайсьці за парабкоў да польскіх паноў. Вось гэтая эканаміцкая небаспечнасьць, гэты страх эканаміцкай сьмерці асабліва павінен прымусіць усіх грамадзян Беларусі бяз розьніцы веры і нацыі парупіцца аб незалежнасьці нашага краю. Можна выбіраць адно з двух: або няволя ў польскіх паноў, або вольная незалежная Беларусь. Ня гледзячы на тое хто паб'е, а хто будзе пабітым, які бы канец вайны ня быў, голас народу заўсёды будзе мець вялікае значэньне. На конфэрэнцыі аб міры будуць яшчэ лічыцца з тым, што ўсякае прылучэньне часьці Беларусі да Польшчы або да Маскоўшчыны будзе прычынай новых войнаў. Гэткім парадкам палітычнае палажэньне для нас можа яшчэ балей карыснае, чымся для тых, што хочуць нас паняволіць. Трэба толькі падаваць свой голас, трэба каб сьвет ведаў чаго мы хочам. Усякае нашае маўчаньне непрыяцелі нашыя тлумачаць на сваю карысьць. Справай кожнага беларуса, кожнага грамадзяніна нашага краю цяпер ёсьць дамагацца незалежнасьці Беларусі. За зямлю, шчасьце і волю, за Незалежную Беларусь кожны павінен быць гатоў аддаць сваё жыцьцё.

## У справе прыезду папескага нунцыя.

Прыезд папескага нунцыя ў Літву і Беларусь мае вялікае значэньне ў жыцьці народаў, жывучых у гэтых краёх.

І мы беларусы павінны таксама прырыхтавацца на сустрэчу Госьця, але разам з гэтай сардэчнай сустрэчай мы павінны ўсюду выказаць які мы церпім уціск з боку нашых няпрошаных апякуноў-палякоў.

Трэба сарваць маску з тых, што так голасна крычаць аб сваей каталіцкасьці, але каторыя нас цягнуць не да Каралеўства Нябескага, але да Каралеўства Польскага, бо яно іх больш цікавіць, чымся Касьцёл.

